*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 17 (4372)**

1 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

## Да ўвагі!

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### Дыферэнцыраваныя тарыфы адмяняюцца…

З 1 сакавіка за ўсю спажытую ваду мы будзем плаціць па льготным тарыфе. Дагэтуль дзейнічаў ліміт у 40 літраў вады на аднаго чалавека. За тэхабслугоўванне таксама будуць налічваць сумы па льготным тарыфе – 0,1187 рубля за 1 кв. метр. Праўда, у кватэры альбо доме мусіць быць зарэгістраваны хаця 6 адзін чалавек.

СІТУАЦЫЯ

## Генадзь ФЯДЫНІЧ: «На якой падставе ў мяне забіраюць перапынак на абед?»

Як вядома, суд Савецкага раёна г. Мінска асудзіў кіраўнікоў прафсаюза РЭП за «ўхіленне ад выплаты падаткаў у буйным памеры» на 4 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу.

На «дамашняй хіміі» лідары прафсаюза РЭП **Генадзь Фядыніч** і **Ігар Комлік** адбываюць пакаранне ўжо каля двух месяцаў.

*«Дома я павінен быць у 19.00, а ў магазін альбо паліклініку магу хадзіць толькі з 12.00 да 14.00*, – кажа Генадзь Фёдаравіч. – *На якой падставе ў мяне забіраюць перапынак на абед? Хто даў такое права? Чаму гэтыя пытанні не ўзгаднілі з маім наймальнікам? Чаму я павінен ў рабочы час пакідаць працу?*

*У заяве я напісаў, што ўстаноўлены рэжым вымушае мяне парушаць Працоўны кодэкс. Я нават не магу наведаць паштовае аддзяленне, каб забраць карэспандэнцыю. У выходныя дні мне забаронена выходзіць на вуліцу, а ў будныя я не маю магчымасці схадзіць на пошту. Таму я прапанаваў інспекцыі ўстанавіць мне тэрмін знаходжання ў кватэры з 21.00 да 6 гадзін раніцы. Такі рэжым дазволіць мне не парушаць рэжым і працоўнае заканадаўства»*.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАТЭСТ

## No smoking!

*Жыхары Слоніма пратэстуюць супраць размяшчэння ў іх горадзе тытунёвых шапікаў «Табакерка» і «Табак».*

У Слоніме сабралі больш за 500 подпісаў супраць усталявання ў горадзе тытунёвых шапікаў «Табакерка» і «Табак» і накіравалі іх у Адміністрацыю прэзідэнта, у Слонімскія райсавет і райвыканкам, а таксама ў Гродзенскі аблвыканкам.

*«Наша галоўнае патрабаванне да ўлад: спыніць масавую прапаганду палення ў нашым горадзе і ў краіне!* – кажа актывіст **Алесь Масюк.** – *Падобная практыка рэалізацыі тытунёвай прадукцыі дыскрэдытуе ідэю здаровага ладу жыцця».*

Масюк паведамляе, што ў Слоніме, дзе жыве 49 тысяч чалавек, усталявана ўжо больш за 10 тытунёвых шапікаў. Прычым, заўважае ён, усе яны знаходзяцца ў самых бойкіх гандлёвых месцах, побач з аўтобуснымі прыпынкамі. Але самае небяспечнае, паводле меркавання актывіста, тое, што тытунёвыя шапікі, як правіла, усталяваны ў непасрэднай блізкасці да школ, дзіцячых садкоў, устаноў гандлю і аховы здароўя!

### Чаму не рэагуюць мясцовыя ўлады?

Алесь Масюк здзіўлены тым, як да прапаганды палення ў іх горадзе ставяцца мясцовыя ўлады. Паводле яго назірання, ніводзін з дэпутатаў нават не выступіў у СМІ супраць засілля тытунёвых кіёскаў. Нідзе ў горадзе не адбылося ні дыскусій, ні абмеркаванняў важнейшай тэмы, якая тычыцца здароўя нацыі.

*«У райсавеце ёсць камісія, якая займаецца пытаннямі аховы здароўя, але няма ніякай рэакцыі з яе боку,* -- канстатуе Алесь. – *У райвыканкаме мне сказалі, што рашэнне аб усталяванні шапікаў прымалася на ўзроўні выканкама. А ў склад выканкама ўваходзяць і работнікі аддзела аховы здароўя, і тыя, хто адказвае за выхаванне маладога пакалення. Дык чаму яны маўчаць?»*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ШТРЫХ

## Ніводнага заслужанага ўрача…

Ва ўказе кіраўніка краіны «Аб узнагароджанні» №90 ад 25 лютага сцвярджаецца, што дзяржаўнымі ордэнамі, медалямі і званнямі адзначаны за шматгадовую плённую працу прадстаўнікі розных прафесій – і ваенныя, і міліцыянеры, і аператыўнікі, і тыя, хто ратуе людзей у час пажару і ліквідацыі надзвычайных сітуацый, і прадстаўнікі цывільных прафесій – хімічнай прамысловасці, машынабудавання, гандлю, грамадскай авіяцыі, сацыяльнай абароны насельніцтва, аховы здароўя, навукі, адукацыі і культуры. Узнагароджаны 143 чалавекі.

Што звяртае на сябе ўвагу – у спісе шмат сілавікоў, напрыклад, сем супрацоўнікаў МУС, якія працуюць ва ўпраўленнях па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, адзначаны медалём «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку». Сярод узнагароджаных муляры, слесары, прадаўцы, настаўнікі, вучоныя, суддзі, лётчыкі, сцюардэсы, чыноўнікі розных рангаў і кіраўнікі прадпрыемстваў. А вось медыкаў, лічы, няма. Толькі галоўны ўрач санаторыя «Белая Вежа» для ветэранаў вайны, працы і інвалідаў **Аляксандр Бобыраў** атрымаў званне «Заслужаны работнік сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь».

Для параўнання: летась аналагічным указам прэзідэнта дзяржаўнымі ўзнагародамі былі адзначаны пяцёра ўрачоў з розных рэгіёнаў краіны. Урач-гастраэнтэролаг, загадчык аддзела гепаталогіі і малаінвазіўнай хірургіі 9-й клінічнай бальніцы Мінска **Аляксей Федарук** атрымаў званне «Заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь».

Чаму сёлета медыкі засталіся амаль незаўважанымі? Магчыма, гэта проста збег абставін, але на фоне гучных спраў медыкаў-карупцыянераў, якія зараз разглядаюцца ў судах, міжвольна прыходзіць думка, што гэта не выпадкова…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Алег Гайдукевіч узначаліць партыю, але пакуль ён толькі першы намеснік яе старшыні

У мінулым нумары «Народнай Волі» журналіст Алесь Святланіч, можна сказаць, авансаваў партыйную кар'еру Алега Гайдукевіча: у бліц-калонцы **«Ваша рэакцыя на заяву Лідзіі Ярмошынай…»** ён узгадваецца як старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, хоць гэта пасада пакуль застаецца за яго бацькам. На сённяшні дзень Алег Сяргеевіч з'яўляецца першым намеснікам кіраўніка партыі, але можна спрагназаваць, што ў недалёкім часе ён усё ж узначаліць яе. Таму, робячы ўдакладненне, рэдакцыя спадзяецца, што Алег Гайдукевіч не пакрыўдзіўся за тое, што журналіст, які браў інтэрв'ю, узняў яго на вышэйшую прыступку партыйнай лесвіцы. А вось у чытачоў мы ўсё ж просім прабачэння – «Народная Воля» цвёрда прытрымліваецца правіла: любая, нават невялічкая, памылка патрабуе абавязковага выпраўлення, чым выклікана, дарэчы, і сённяшняе ўдакладненне.

**Рэдакцыя.**

РАКУРС

## Больш як у трэці раёнаў заробак не перавышае 700 рублёў

*«Па некаторых раёнах усё не вельмі добра. Зарплата менш за 600 рублёў – гэта няправільна», – заявіў днямі першы віцэ-прэм'ер* ***Аляксандр Турчын.***

А ці многа ў Беларусі раёнаў, дзе людзям плацяць за іх працу менш за 300 долараў? Прычым статыстыка адлюстроўвае «брудную», без вылічэння падаткаў, зарплату, на рукі «чыстымі» атрымліваецца яшчэ менш.

Аказваецца, такіх раёнаў два – Шаркаўшчынскі і Мсціслаўскі. Так, за студзень памер налічанага сярэдняга заробку склаў усяго 579,3 і 580,9 рубля адпаведна.

Аднак у 49 з 118 раёнаў Беларусі сярэдняя зарплата ў студзені не дасягнула 700 рублёў. У Нараўлянскім раёне Гомельскай вобласці, які займае 49-е месца ў статыстыцы заробкаў па рэгіенах, ён склаў 699,4 рубля. Атрымліваецца, што больш як у трэці раёнаў Беларусі зарабляюць у сярэднім усяго каля 350 долараў, ці 290 еўра. У суседняй Літве сёння працадаўца не мае права плаціць работніку менш за 400 еўра – такі там вызначаны памер мінімальнай зарплаты.

### ТОП-10 раёнаў з мінімальнымі сярэднімі зарплатамі ў студзені (у рублях):

| | |
|---|---|
| **Шаркаўшчынскі** (Віцебская вобласць) | 579,3 |
| **Мсціслаўскі** (Магілёўская вобласць) | 580,9 |
| **Міёрскі** (Віцебская вобласць) | 613,3 |
| **Слаўгарадскі** (Магілёўская вобласць) | 629,9 |
| **Хоцімскі** (Магілёўская вобласць) | 631,3 |
| **Бешанковіцкі** (Віцебская вобласць) | 632,3 |
| **Кармянскі** (Гомельская вобласць) | 633,6 |
| **Сенненскі** (Віцебская вобласць) | 638,8 |
| **Лёзненскі** (Віцебская вобласць) | 641,1 |
| **Ушацкі** (Віцебская вобласць) | 643,6. |

У той жа час у сярэднім па Беларусі налічаны заробак за студзень склаў 981,6 рубля. У абласных цэнтрах лічбы такія:

| | |
|---|---|
| **Магілёўская** | 817,3 |
| **Віцебская** | 830, |
| **Брэсцкая** | 833,8, |
| **Гродзенская** | 837,7 |
| **Гомельская** | 891,4 |
| **Мінская** | 981,0. |

У сталіцы за студзень сярэдні налічаны заробак быў 1379,5 рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СКАЗАНА!

# Алкашам не месца за рулём!

Такое прынцыповае меркаванне выказаў учора Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з міністрам унутраных спраў Ігарам Шуневічам.

І сапраўды, па віне тых, хто садзіцца нападпітку за руль аўтамашыны ці трактара, гіне мноства людзей.

**2018 год.** У Беларусі па віне нецвярозых кіроўцаў за студзень–лістапад адбылося 260 ДТЗ, у выніку якіх 64 чалавекі загінулі і 299 атрымалі траўмы.

**2017 год.** П'яныя за рулём здзейснілі 343 ДТЗ, у якіх 83 чалавекі загінулі, і 374 атрымалі траўмы.

Страшна, калі п'яныя кіроўцы забіваюць дзяцей. Жудасны выпадак адбыўся ў мінулым годзе ў Баранавіцкім раёне. 31-гадовы жыхар вёскі Вялікія Лукі на сваёй машыне з'ехаў у кювет, дзе сутыкнуўся з дрэвам. У аварыі загінулі яго 12-гадовая дачка і аднавяскоўвец, а сам кіроўца-злачынца збег з месца трагедыі. Калі яго затрымалі, высветлілася, што ў ягонай крыві было 2,1 праміле алкаголю – гэта, лічы, ён выпіў бутэльку гарэлкі і сеў за руль!

У Нясвіжскім раёне п'яны кіроўца не справіўся з кіраваннем, яго аўтамабіль занесла ў кювет – на месцы здарэння загінула 34-гадовая пасажырка. У Слонімскім раёне п'яны бяспраўнік здзейсніў ДТЗ, у выніку чаго яго сын апынуўся ў рэанімацыі.

...За мінулыя выхадныя – толькі ўдумайцеся: за два дні! – у Беларусі за кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення інспектары ДПС затрымалі 155 кіроўцаў! Страшна ўявіць, колькі п'яных кіроўцаў, а значыць, злачынцаў, ездзяць па нашых дарогах і пагражаюць нашым жыццям! І гэта, безумоўна, вельмі сур'ёзная праблема!

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДИСКУССИЯ

## От редакции

*Статья Александра Федуты «Слезть с иглы!» была напечатана в «Народной Воле» еще в декабре прошлого года. Первым на нее откликнулся наш давнишний автор, бывший учитель истории Семен Викентьевич Борис. А спустя какое-то время на редакционном столе появился материал кандидата исторических наук, доцента Вадима Францевича Гигина.*

*Оба автора заинтересованно продолжают разговор, начатый А.Федутой. Но видение проблемы у них разное, как и не через одну и ту же призму они ее рассматривают. Вам, уважаемые читатели, советуем не спешить с выводами насчет того, чьи аргументы заслуживают большого внимания, а чьи – меньшего. Хорошенько проанализируйте каждый факт, каждый довод, изложенные и в одной статье, и в другой. Поразмышляйте, исходя из своих собственных позиций, и если появится желание вступить в дискуссию – милости просим, Вам также будут предоставлены страницы «Народной Воли».*

# А нужен ли нам Союз?



Прочитал статью Александра Федуты «Слезть с иглы!» и полностью согласен с автором. Пора с соседями (в том числе и с Россией) рассчитываться по рыночным ценам, а не жить «на халяву» за счет кого бы то ни было. У нас есть деньги, чтобы заплатить и за нефть, и за газ. Нужно только их умно и расчетливо расходовать. У нас трудолюбивый народ. Белорусы не хуже поляков и немцев, а почему мы сегодня живем хуже наших соседей?! Если не знаете ответа, то я отвечу на этот вопрос, подкинув, правда, еще один. Почему белорусы уезжают на заработки в Польшу, Россию и Германию? А потому, что здесь для них нет достойного места работы. Мы их обучаем, а они уезжают. И правильно делают. А если Беларусь, не дай Бог, войдет в состав России, то еще больше уедут, чтобы быть подальше от войны, ибо война из Донбасса придет и сюда. И кому из наших парней захочется умирать в Сирии, в Украине или еще где-то? Неужели опыт СССР нас ничему не научил?!

А нашему президенту, видимо, снова захотелось в Союз. Ну, возможно, был расчет на белом коне въехать в Кремль, но ему перекрыли дорогу туда. Здесь бы признать свою ошибку и остановиться, но нет, продолжает игру с российским медведем уже более 18 лет. Фактически Союз России и Беларуси существует только на бумаге. Раньше белорусские деньги можно было выслать по почте в Россию, а теперь их не принимают. А если послать простую книгу в Смоленск или Псков, то надо заплатить около 20 рублей, пересылка этой же книги в Гомель стоит менее 5 рублей. Получается, сама книга стоит 20 рублей и пересылка еще столько же. Вот вам и союз. Зачем же он? Хватит дурить народ – союза нет, поэтому надо прямо сказать: «Мы хотим быть независимыми и нейтральными». А то что получается: у нас есть площадь, проспект и даже Дворец Независимости, а мы все еще в СССР.

Не согласны со мной? Тогда посмотрите, какие названия улиц и площадей в Минске. Словно и не было развала СССР. Пора понять, что Советский Союз не воскресить. И не надо забывать о ГУЛАГе и войнах, которые вел СССР. Правда об этом и развалила страну. Надо радоваться, что так случилось.

Как сохранить независимость Беларуси? Вот мои конкретные предлождения.

1.Выйти из Союза России и Беларуси как можно скорее, в этом году. Из СНГ не выходить. Сохранить дружественные отношения с РФ и рассчитываться только по рыночным ценам.

2.Договор на аренду российских военных объектов возле Вилейки и Ганцевичей не продлевать, а если и соглашаться на какие-то еще 10 лет, то пусть за эту территорию платят большие деньги.

3.Требовать от правительства России возврата нам драгоценностей и художественных ценностей белорусских магнатов Радзивиллов, Сапегов, Святополк-Мирских и других, которые были вывезены из Беларуси в 1795, 1812, 1831, 1864 и 1940–1941 годах. Списки этих ценностей имеются в Министерстве культуры РБ. Наши сокровища белорусских магнатов хранятся в Москве и Санкт-Петербурге.

4.Сократить количество министерств и комитетов правительства Республики Беларуси с 25 до 10 или 15. Сократить государственный управленческий аппарат (чиновников) на 50%.

5.Пересмотреть бюджет. Уменьшить расходы на государственное управление с 50,7% до 15%, а позже и до 10%. Увеличить расходы на культуру, образование и здравоохранение. Сократить расходы на спорт и «Славянский базар». Для простых жителей Беларуси Европейские игры не нужны, а потому здесь нечем гордиться.

6.Принять серьезные меры по поддержанию белорусского языка. Ввести требование: без знания белорусского языка чиновники к государственному управлению не допускаются. Оказать финансовую поддержку всем белорусскоязычным газетам и изданиям (*выданням*). Это не государство, а колония, если язык коренной нации на задворках, а чужой язык в почете.

7.Пойти срочно на соглашение с оппозицией для совместной защиты суверенитета Беларуси. Оппозицию должен представлять не Костусев, а Николай Статкевич, Владимир Некляев и другие.

8.Провести выборы в Национальное собрание без Ермошиной и допустить в парламент представителей политических партий по их списку, а не так, как теперь (только коммунисты, а две женщины не в счет как исключение и временное отступление). Провести выборы по мажоритарной и пропорциальной системам (по спискам от партий).

9.Начать проводить работы по Балтийско-Черноморскому коллектору.

10.Надо обратить внимание, как управляют органы власти в Германии и Польше. Скопировать их опыт, а не смотреть на Россию.

В заключение хочу сказать, что история развивается по спирали (это по учению Гегеля). Сегодня Беларусь снова оказалась на распутье, как в конце XVIII века. Тогда императрица Екатерина поставила Станислава Понятовского и сняла его, а теперь сам руководитель А.Г.Лукашенко доигрался, что ему уже ультиматум ставят. Знайте, что спасти власть может только белорусский народ (а не министры), если он выступит единым фронтом вместе с оппозицией. Если мы не поладим сами, то с нами будет то же самое, что с Крымом и Донбассом.

**Семен Викентьевич БОРИС, пенсионер, бывший учитель истории.**

*Минск.*

# Простых рецептов не бывает



Статья Александра Федуты «Слезть с иглы!», опубликованная 14 декабря прошлого года, не могла остаться незамеченной. Автор, как всегда, искрометен и по-своему изящен в жонглировании аргументами. Но вот во всем ли можно с ним согласиться?

В целом его размышления сводятся к ряду незамысловатых тезисов: надо жить по средствам, в Кремле не дети малые, а хищники, пора слезать с нефтяной иглы. Что ж, новизны здесь никакой нет. То, что в политику (не только, кстати, в Кремль, но и в другие обиталища власти) приходят не агнцы, известно с библейских времен. А пагубность нефтегазовой иглы – общее место не столько для белорусских, сколько для российских политических публицистов вот уже добрых три десятка лет. Потому оставим эти банальности в стороне. Как и неджентльменское сравнение Марианны Щеткиной с Марией-Антуанеттой с прозрачным намеком на гильотину.

Куда важнее ответить на вопрос: что же делать в сложившейся ситуации? Александр Федута предлагает нам «забить болт». Это дословно, а по сути – пойти на разрыв союза с Россией.

Вполне уместно напомнить, как возник Союз и для чего он нам нужен.

Идея объединения восточнославянских земель в том или ином виде после распада Древней Руси не угасала на протяжении веков. Один из первых примеров – женитьба в XIII веке князя Александра Ярославича (да, того самого Невского) на полоцкой княжне. Именно Александра Брячиславовна была матерью князя Даниила, родоначальника московской линии Рюриковичей. Уже в XIV столетии братья Ольгердовичи, выходцы из наших земель, сыграли решающую роль в Куликовской битве. Страстным сторонником союза с Москвой был Лев Сапега. Долгие годы он с завидным упорством продвигал план государственной унии. В декабре 1600 года, заботясь «о большом деле… о вечном соединенье», Лев Иванович произнес пламенную речь перед московскими боярами. В ней он подчеркнул: «Мы с вами славяне, один народ».

На заре белорусского национально-политического возрождения идея союза с Россией разделялась большинством его участников. Авторы народнического журнала «Гомон» в 1884 году утверждали право белорусов на самоопределение и собственную государственность. Одновременно они же выступали против «бессознательного узкого национализма» и за равноправный союз с Россией. Как раз такой вариант государственного будущего Беларуси и был отражен в итоговой резолюции Всебелорусского съезда 1917 года.

На референдуме 1991 года о сохранении СССР 82,7% голосовавших белорусов утвердительно ответили на вопрос «Считаете ли Вы необходимым сохранение Союза Советских Социалистических Республик как обновленной федерации равноправных суверенных республик, в которой будут в полной мере гарантироваться права и свободы человека любой национальности?». А через три года на первых выборах Президента нашей страны из шести зарегистрированных кандидатов четверо (Лукашенко, Дубко, Кебич и Новиков) в той или иной степени выступали за интеграцию с Россией. Наиболее убедительной для избирателей оказалась программа Александра Лукашенко. Потому, выполняя свои предвыборные обещания, Глава государства в мае 1995 года вынес на референдум вопрос об экономической интеграции с Российской Федерацией. Тогда этот курс поддержали 83,3% избирателей.

Кстати, настроения наших граждан с той поры если и изменились, то не сильно. Даже по данным манаевского НИСЭПИ, который трудно заподозрить в симпатиях как к действующей белорусской власти, так и к России, при выборе между интеграцией с Россией или ЕС около половины респондентов на рубеже 2015–2016 годов поддержали первый вариант, и от четверти до трети – второй. При этом 73,9% посчитали себя более близкими к русским, а 25,8% – к европейцам.

Так что союзный проект – не прихоть нескольких политиков, а идея с многовековой историей, которая и сейчас разделяется большинством белорусских граждан.

Беларусь сделала свой выбор интеграционного развития еще двадцать с лишним лет назад. При этом наша страна готова также сотрудничать со всеми государствами в любой части света, в первую очередь с ближайшими соседями из Европейского Союза. Для нас неприемлемо возведение разделительных стен, рытье окопов и сооружение баррикад на континенте. Мы за интеграцию от Атлантики до Тихого океана.

Отрицать достижения союзного строительства было бы необъективно. Прежде всего это равные права при трудоустройстве, пенсионном обеспечении по месту жительства, на получение образования, бесплатную скорую медицинскую помощь. Военно-политическое сотрудничество позволило Беларуси сэкономить существенные финансовые средства. Реализованные за прошедшие годы свыше пяти десятков союзных программ дали возможность и создать новые рабочие места, и профинансировать научные исследования, и поддержать отечественную культуру.

А что до споров… Так у кого их нет? Среди стран Европейского Союза споры возникают регулярно. Совсем недавно Франция даже отозвала посла из Италии. И что? Как показал опыт Великобритании, любой exit оказывается себе дороже.

Правда, нынешняя белорусско-российская интеграционная дискуссия происходит в условиях обострения геополитической ситуации, накануне выборов в нашей стране и окутана пеленой некоторой загадочности. А любая загадочность у политизированной публики вызывает вполне резонную озабоченность.

Поэтому возвращаемся к первоначальному вопросу. Что же нужно делать? Выдохнуть, успокоиться и четко определиться, чего мы хотим от России. Исходя из заявлений и действий белорусских властей, это: 1) равноправное политическое и экономическое сотрудничество, 2) социальные гарантии белорусским гражданам в рамках Союзного государства, 3) доступ к дешевым энергоресурсам, 4) сохранение свободы внешнеполитического маневра.

На самом деле у Минска достаточно много выигрышных карт в его оригинальном диалоге с Москвой. Среди них и сохраняющийся высокий личный авторитет Александра Лукашенко среди россиян. Кого-то в Москве, очевидно, это раздражает, но не считаться с данным фактом там не могут. Как и с тем, что во всех опросах Беларусь регулярно выходит на первое место в списке друзей России. Такой доброжелательный статус не удалось поколебать ни одному из пресловутых «крестных батек». Многие российские граждане искренне считают, что наш социально-политический строй является куда более справедливым, чем российский. Конечно, здесь присутствует значительная доля идеализации, но все же мы должны научиться пользоваться этой «мягкой силой» в своих интересах.

Да и сила у нас не только мягкая. Зависимость наших двух стран – взаимная. Беларусь занимает важнейшее стратегическое положение в регионе. Для нашего союзника весьма ценен белорусский голос на мировой арене, в том числе в международных организациях. А в экономике Беларусь – четвертый внешнеторговый партнер России, уступая только Китаю, Германии и Нидерландам.

Те, кто призывает ответить на жесткую позицию Москвы, обозначенную в последнее время, обострением отношений, фактически предлагают дуболомную стратегию, которая никак не поспособствует укреплению нашей независимости и суверенитета. Используя лексику Александра Федуты, это означает забить себе болт то ли в ногу, то ли в голову.

Взять тот же Балтийско-Черноморский коллектор транспортировки нефти и газа. Хорошо, построим, откажемся от российского углеводородного сырья. Так ведь все равно и своего больше не станет, у кого-то придется покупать, завозить, платить за доставку. А значит, и зависеть. Да и сама эта идея – всего лишь новое издание плана «Междуморье». Получается, нам предлагают от «русского мира» отвернуться в сторону пресловутой «четвертой Речи Посполитой». И в чем тогда профит для нашей независимости?

В нынешнем положении куда уместнее асимметричные ответы. Рецепт от любой загадочности и двусмысленности – точное следование заявленной повестке дня. На данный момент мы знаем, что создана рабочая группа по выработке предложений о дальнейшем развитии белорусско-российской интеграции. Вот и хорошо. Здесь многое предстоит сделать. Давно слышны нарекания о неполной реализации достигнутых ранее соглашений. Граждане жалуются на проблемы с равными правами и социальными гарантиями, несоразмерные тарифы и т.д. Политикам и чиновникам предстоит отладить союзный механизм. Раз они об этом говорят публично.

И еще один важный момент. Мы неплохо уживались со слабой ельцинской Россией. Нужно научиться жить с новой и амбициозной путинской. А главное – понимать, что наша независимость и суверенитет даны не для того, чтобы навредить России или кому-то еще, а прежде всего для того, чтобы улучшить жизнь собственных граждан. Потому стоит не акцентировать внимание на конфликтах, в том числе исторических, а искать точки соприкосновения.

И все же в чем-то с Александром Федутой можно согласиться. Думать, конечно, нужно. Но помнить при этом, что рубить с плеча – не белорусский вариант решения любой проблемы. Памяркоўней трэба, памяркоўней...

**Вадим ГИГИН, кандидат исторических наук, доцент.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Алесь ЧАХОЛЬСКІ:

# «Хацелася б, каб следчыя дзеянні па гэтай справе адбываліся больш хутка…»



На мінулым тыдні кіраўнік грамадскай дырэкцыі Народнага мемарыялу ў Курапатах Алесь Чахольскі накіраваў зварот пракурору Мінскай вобласці наконт спынення дзейнасці рэстаранна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим» на 51-м кіламетры МКАД.

«*Напрыканцы студзеня выйшла пастанова Савета міністраў №69, якая забараняе выкарыстоўваць месцы пахавання, тэрыторыі ахоўных зон і зон ахоўы ландшафту як месца па аказанні юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі паслуг забаўляльнага характару, не сумяшчальных з захаваннем памяці аб загінуўшых і фарміравання паважлівага стаўлення да падзей гісторыі дзяржавы*, – гаворыць Чахольскі. – *Таму я лічу, што пракуратура павінна прыняць адпаведныя меры.*

Зараз у Курапатах амаль круглыя суткі працуюць валанцёры.

«*Я думаю, гэта павінна спыніць вандалаў*, – распавядае Алесь Чахольскі і ўзгадвае інцыдэнт з лавай Клінтана, якая цяпер знаходзіцца на аднаўленні. – *Калі рэканструкцыя будзе завершана, лаву ўстановяць на тое ж самае месца, дзе яна і была. Мы таксама думаем прадпрыняць пэўныя меры тэхнічнай бяспекі. Магчыма, будуць камеры альбо нейкія іншыя сродкі – зараз я ўсе дэталі раскрываць не буду*».



Дарэчы, выказваліся розныя думкі наконт таго, як рамантаваць лаву Клінтана. Некаторыя прапаноўвалі пакінуць яе ў разбураным выглядзе – не толькі як помнік нявінным ахвярам камуністычнага рэжыму, але і як помнік дзеючым уладам, якія не могуць спыніць вандалаў.

«*Але ўсё ж такі вырашылі аднавіць лаву ў тым выглядзе, у якім яна была*, – гаворыць Чахольскі. – *Зараз над ёй працуюць спецыялісты. Прычым робяць усё на грамадскіх пачатках. Калі будуць патрэбны сродкі – я пра гэта аб'яўлю. І, калі спатрэбіцца, збяром неабходную суму. Але пакуль прафесія-налы сваёй справы рамантуюць лаву не за грошы, а, як кажуць, па закліку сэрца*».

Ці знайшлі вандала, які разбурыў лаву?

«*Прыкладна два тыдні таму я быў на допыце ў Следчым камітэце Мінскага раёна і назваў следчым прозвішчы тых, хто бачыў магчымага злачынцу*, – гаворыць Алесь Чахольскі. – *Нават тэлефоны пакінуў! Гэтыя людзі могуць і фотаробат злачынцы скласці, у нас таксама зафіксаваны нумар машыны, якой, магчыма, карыстаўся вандал. Усе гэтыя дадзеныя ёсць у Следчага камітэта. Але да гэтага часу тых, каго я назваў, чамусьці не дапыталі. Я не лічу гэта нармальным. Хацелася б, каб следчыя дзеянні па гэтай справе адбываліся больш хутка*».

**Марына КОКТЫШ.**

ГЛАС НАРОДА

# …Не тот хлеб

Доброго дня всем сотрудникам многоуважаемой и любимой газеты!

Хочу высказаться о повседневном и коечто спросить.

Возьмем такой наш насущный продукт, как хлеб. Повышение цен на него уже не является государственно значимым явлением. Это когда-то цена хлеба была индикатором состояния общества. А теперь рынок…

Ассортимент хлебобулочных изделий, несомненно, стал шире, чем 20–25 лет назад, но найти хороший хлеб по-прежнему сложно. Обратите внимание на то, как долго стоят пожилые люди у хлебобулочных лотков: читают названия, состав, изучают, прицениваются (хлеб стал очень дорогим). Никому не хочется выкладывать деньги за то, что завтра, превратясь в черствую лепешку, будет выброшено в ведро для отходов.

Когда в 2006 году появился заварной хлеб «Маг», а затем «Балтийский» (с семечками) – это были продукты высокого качества. Технология соблюдалась, за качеством муки следили. Но все это уже в прошлом. Теперь эти сорта хлеба – жалкое подобие первых выпечек.

А во что превратили «Нарочанский»? Когда-то этот каравай мы, столичные жители, везли как гостинец, навещая свою родню в деревне. Я даже возил его в Москву, когда бывал в командировках. Московское начальство было в восторге от «Нарочанского». Теперь же преподносить в качестве подарка этот хлеб – только опозориться.

Сорта «Лошницкий» и «Лянок», которые выпекаются на хлебозаводе №3, упаковываются таким образом, что виден только краешек горбушки. Срез и вся половинка буханки закрыты черным полиамидом. Правильный маркетинговый ход: хлеб такого качества можно продать только в подобной упаковке.

Но больше всего вопросов у меня к специалистам, которые разрабатывают рецептуру батонов, багетов. Почему в составе этих изделий всегда модифицированный маргарин, а еще чаще спреды различных комбинаций, вред которых для здоровья человека доказан? И что за вещества эти моно- и диглицериды жирных кислот?

В батонах «Минский», «Столичный» и им подобных сахара столько, что они едва ли не слаще сдобной булки.

**Константин Михайлович ШКУЛЬ, пенсионер.**

*пос.Мачулищи Минского района.*

РЕЗОНАНС

# Насилие порождает насилие




Здравствуйте, дорогая редакция!

Написать это письмо меня подтолкнула трагедия, которая произошла в Столбцах. Не мы ли, взрослые, повинны в том, что случилось в этом небольшом городке? Не мы ли все виноваты в том, что творится в наших школах?

Я на днях решила поговорить с внучкой на тему: как могло такое случиться, что старшеклассник убил учительницу и своего, считай, ровесника? И услышала: «Бабушка, есть учителя очень хорошие, у них все дети хорошие, уроки проходят интересно, в классе тишина… А есть такие, которые унижают детей, обзывают их разными плохими словами, настраивают друг против друга. И если найдется смельчак, который даст отпор, его сразу же морально уничтожают».

Хорошо, если дома ребенок расскажет о своих проблемах родителям, но многие не говорят, и подросток не знает, как выйти из сложившегося положения.

Родительские собрания во многих случаях проходят только для того, чтобы собрать деньги на какие-то нужды школы. Детей как будто и не существует – только поборы.

Мне 70 лет, я очень переживаю за молодежь. Она, конечно, не та, что была, скажем, после войны. Гораздо больше получает информации, имеет лучшее представление об окружающем мире. И, понятно, к ней нужно относиться уважительно. Насилие порождает насилие.

У нас на многих улицах установлены телекамеры. Может, и в классы их поставить? Тогда, мне кажется, и учителя, и ученики будут вести себя по-другому. Я думаю, что родители не будут против этого технического новшества.

Но это моя точка зрения. Может, кто-то поделится своими мыслями?

Спасибо за «Народную Волю», уважаемая редакция!

**Н.П.КОСТЮКЕВИЧ.**

*Минск.*

ТВОРЧЕСТВО ЧИТАТЕЛЕЙ

## Поэт и ручей

Течет ручей, бежит ручей.
Поэт спросил: «А будешь чей?»
Ручей ответил не спеша:
«Пойми меня: ничейный я.
Со всеми в дружбе и ладу,
Но сам себе принадлежу».

**Валентин ПАНКЕВИЧ.**

ПОСЛЕ ВЫСТУПЛЕНИЯ ГАЗЕТЫ

# «У меня украли сварочный аппарат…»

Многие читатели «Народной Воли» наверняка помнят напечатанное в номере за 29 января письмо жителя деревни Старые Ранчицы Бешенковичского района Петра Шилова под названием «У меня украли сварочный аппарат…». Автор в острой форме высказал недовольство по поводу плохого расследования уголовного дела, связанного с кражей с веранды его дома технического агрегата.

Публикация была послана на реагирование в Следственный комитет Республики Беларусь по Витебской области. И вот какой ответ получила редакция. Надеемся, что виновник преступления все же будет найден и наказан по всей строгости закона.



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УПРАЎЛЕННЕ ПА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ
пр. Маскоўскі, 51А, 210038, г. Віцебск
Тэл./факс: (0212) 46 21 08, 48 66 36
e-mail: vt@sk.gov.by

СЛЕДСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ УПРАВЛЕНИЕ ПО ВИТЕБСКОЙ ОБЛАСТИ
пр. Московский, 51А, 210038, г. Витебск
Тел./факс: (0212) 46 21 08, 48 66 36
e-mail: vt@sk.gov.by

21.02.2019 № 17-5/1503
На № 01-08/30 ад 07.02.2019

Середичу И.П.
ул.Энгельса д.34-А
г.Минск, 220030

Уважаемый Иосиф Павлович,

Управлением Следственного комитета Республики Беларусь по Витебской области (далее – УСК) с выездом в д.Старые Ранчицы Бешенковичского района Витебской области рассмотрено письмо Шилова П.Г., проживающего по указанному адресу.

В ходе изучения материалов уголовного дела и опроса Шилова П.Г. установлено, что для проверки доводов заявителя необходимо проведение ряда следственных действий.

В связи с изложенным, УСК отменено постановление о приостановлении предварительного следствия и предварительное расследование по уголовному делу возобновлено. По результатам проведенного предварительного расследования по уголовному делу будет принято процессуальное решение.

Заместитель начальника управления
Следственного комитета
Республики Беларусь
по Витебской области — И.В.Метелица

26.02.2019
01-08/5

ПАЛЕМІКА

# Не трэба множыць ворагаў Беларусі, трэба шукаць сяброў!

Неяк «Народная Воля» змясціла на сваіх старонках мой артыкул «Вяртанне да Беларусі праз ... трасянку». На яго адгукнуўся вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Анатоль Вярцінскі. Гэтага я нават не чакаў – каб мая публікацыя ды была заўважана такім знакамітым чалавекам! Для мяне гэта вялікі гонар. На адным дыханні я прачытаў яго водгук, потым яшчэ раз – і нарэшце зразумеў… што з прачытанага нічога не зразумеў. Анатоль Вярцінскі асуджае мяне за тое, што я абараняю трасянку. Яму нават не падабаецца, што я шчыра паведаў «Народнай Волі» пра свой моўны лёс. Вось ён піша, цытуючы мяне: *«Аўтар ліста... у спрэчцы Міхася Скоблы з Алегам Трусавым аддае перавагу апошняму. Нават гаворыць пра «вяртанне да Беларусі праз ... трасянку», сцвярджае, што для яго «трасянка – не шашаль мовы, а мост для пераходу ад «русского мира» да беларускага свету». Лічыць, інакш кажучы, гэтую самую трасянку станоўчым, амаль вырашальным для беларускасці чыннікам. Малазразумелы, канешне, падыход».*

Можа, я такі някемлівы, але не ўкладваецца ў маёй галаве, што колішні намеснік старшыні пастаяннай камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Вярхоўнага Савета 12-га склікання так спрошчана трактуе моўнае пытанне.

Шаноўны Анатоль Ільіч! Я, як і Вы, абедзвюма рукамі за тое, каб насельніцтва Беларусі загаварыла на роднай мове, абмінуўшы трасянку. Як і Вы, я за тое, каб беларуская мова была адзінай дзяржаўнай. На жаль, усё далёка не так. Пакажыце мне хоць аднаго чалавека, які з прывычнай мовы перайшоў бы на іншую, абмінуўшы этап трасянкі. Шмат беларускіх пісьменнікаў пачыналі свой творчы шлях наогул на рускай мове і толькі потым, праз трасянку, прыйшлі да беларускасці. Нават тыя асобы, якія лічаць, што дасканала ведаюць мову, ужываюць русізмы. Лічу, што тыя, хто ганьбіць трасяначнікаў, хто ганьбіць рускамоўных, наносяць вялікую шкоду Беларусі. Трэба змагацца не супраць іншай мовы, а трэба ствараць умовы, каб размаўляць на роднай мове стала прэстыжна. Не трэба множыць ворагаў Беларусі, трэба шукаць сяброў, прыхільнікаў сярод рускамоўных і трасяначнікаў. У жыцці не ўсё так проста.

Аднойчы я прыйшоў на мітынг апазіцыі са сваім знаёмым. Ён, як і я, ваенны пенсіянер, не вораг Беларусі. Адзін выступоўца прамовіў прыкладна наступнае: той, хто размаўляе на рускай мове, страляе ў спіну Беларусі. Мой знаёмы на гэта адрэагаваў так: маўляў, яму прыкра адчуваць, што яго тут лічаць ворагам Беларусі. Больш на мітынгах я яго не сустракаў.

Яшчэ адзін прыклад. На прыпынку грамадскага транспарту побач з магазінам «Акіян» адна жанчына, відаць, добрая знаўца беларускай мовы, стала чапляцца да людзей: чаму яны размаўляюць на рускай мове? Людзі сталі абурацца, з абодвух бакоў чуліся абразы. Гэтай жанчыне было напляваць на Беларусь, але ж яна ведае мову, «патрыётка» – гэта дае ёй права пафанабэрыцца перад купкай людзей на прыпынку пад выглядам змагаркі за мову, а на самай справе – дыскрэдытаваць перад імі мову. І такіх, я скажу, псеўдапатрыётаў вельмі шмат.

Але вернемся да артыкула-водгуку Анатоля Вярцінскага, да яго загалоўка: «Мы – беларусы ці крэолы?». Я, напрыклад, хацеў бы, каб мы называліся ліцвінамі, але сённяшнія рэаліі не дазваляюць нават распачаць шырокую дыскусію на гэту тэму. А якія ў аўтара прэтэнзіі да крэолаў? Можна сказаць, што крэолы – гэта патомства, якое нараджаецца ад людзей розных рас. А якая ў іх будзе мова – гэта залежыць ад шмат якіх фактараў. Мне здаецца, што загалоўкам аўтар намякае на тое, што калі я не асуджаю тых, хто карыстаецца трасянкай, то быццам гэтым самым прыніжаю годнасць нацыі. Паверце, пра такое я, патрыёт Айчыны, і падумаць не магу.

Цяжка знайсці краіну, дзе не існавала б моўнай праблемы. Яна ёсць нават у краінах развітой Еўропы. Так што ад трасянкі нам не адмахнуцца. Яна будзе яшчэ вельмі доўга служыць нам як дапаможнік на шляху ад «русского мира» да беларускага свету.

Каб канчаткова загнаць мяне ў кут, Анатоль Вярцінскі распавёў пра тое, як некалі генерал Павел Казлоўскі рыхтаваў армію для прыняцця прысягі на беларускай мове. Ён піша: *«Як бачым, нават генерал, вайсковы кіраўнік, ні словам не абмовіўся ... наконт таго, што недастаткова ў нашай мове пэўнага лексічнага запасу для абслугоўвання вайсковай сферы, наконт двухмоўя, тым больш – трасянкі»*. Ну слава Богу, я не сумеў, дык хоць генерал Павел Казлоўскі здолеў вам, шаноўны Анатоль Ільіч, растлумачыць, што наша мова самадастатковая. На жаль, за два гады апарат Міністэрства абароны так і не здолеў перакласці тэкст прысягі аб'ёмам паўстаронкі ліста А4 з рускай на беларускую мову. Я не памятаю, каб прысяга хоць аднойчы была прамоўлена на беларускай мове.

**Ілля КОПЫЛ, прыхільнік беларушчыны.**

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Паліто не падышло па памеры

*Купіла ў магазіне паліто для мужа, а яно не падышло па памеры. Што рабіць?*

**Таццяна КАВАЛЁВА, Віцебск.**

Адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» **Васіль Валасюк**: *«Тавар, які не падышоў спажыўцу па памеры ці фасоне, можна абмяняць (альбо вярнуць грошы) на працягу 14 дзён».*

ТАК ДУМАЮ…

# Улада не мара, а крыж!

Інтэрв'ю спадарыні Алены Анісім, надрукаванае ў адным з апошніх нумароў «Народнай Волі», мяркую, не можа пакінуць раўнадушным нікога, хто цікавіцца палітыкай. А ёю цікавіцца трэба, інакш, як нехта сказаў, яна зацікавіцца табой.

У бліжэйшы час Беларусь насамрэч чакаюць дзве найважнейшыя палітычныя падзеі – парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. З аднаго боку, радуе, што апазіцыйныя сілы ўжо пачалі рыхтавацца да іх. На жаль, пакуль усё зводзіцца пераважна да заяў асобных палітыкаў адносна свайго ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі. А лагічным было б пачынаць з неабходнасці ўнясення змен у Выбарчы кодэкс. Вядома, што існуючая ўлада не зацікаўлена істотна змяняць яго. Таму сыходзіць трэба з таго, што дзейнічаць давядзецца па старых правілах. Больш таго, падводзіць вынікі выбарчых кампаній будзе праверанная часам Л.Ярмошына.

З другога боку, пры вялікай колькасці вылучэнцаў, баюся, зноў можа атрымацца сітуацыя, калі давядзецца паўторна наступаць на старыя граблі. Спасылка спадарыні Анісім на цяперашнія прэзідэнцкія выбары ва Украіне, мне здаецца, не зусім апраўданая. Там не ўзнікала раней сур'ёзных праблем з падлікам галасоў у адрозненне ад Беларусі. Ды і менталітэт украінцаў зусім іншы. Калі для большасці беларусаў словы «Абы не было вайны» з'яўляюцца вызначальнымі ў ацэнцы любых палітычных падзей, дык для ўкраінцаў – гэта толькі патрабаванне дня. Дух нацыі – гэта ва Украіне, у Беларусі, на жаль, такога не адчуваецца.

Зразумела, што далёка не ўсе з нашых вылучэнцаў збяруць патрэбныя 100 тысяч подпісаў. Аднак, нават калі ў бюлетэнях для галасавання застанецца хай і 5 чалавек, гэта таксама будзе не на карысць здаровых сіл грамадства і самой апазіцыі. Перакананы, што на нашы прэзідэнцкія выбары трэба ісці адной калонай ці адмаўляцца ад гульні па правілах улады.

На праймерыз я гляджу станоўча, таму як сярод сённяшніх вылучэнцаў вельмі шмат прыстойных людзей. Да самой Алены Анісім стаўлюся з вялікай павагай. Тое, што яна робіць як старшыня ГА ТБМ і дэпутат Палаты прадстаўнікоў, заслугоўвае не проста слоў удзячнасці, а рэальнай падтрымкі. Ужо адно тое, што гэта жанчына выхавала (разам з мужам), калі не памыляюся, траіх сыноў пры такім актыўным грамадскім жыцці, можна расцэньваць як сапраўдны ўчынак і прыклад для іншых сямей.

Не менш цёплых слоў я магу сказаць і пра Паўла Севярынца. Прынцыповасць у адстойванні права беларусаў быць беларусамі, яго мужнасць, праяўленая ў адстойванні Курапатаў, і іншыя не менш смелыя ўчынкі (у тым ліку звязаныя са знаходжаннем за кратамі) гэтага адносна маладога чалавека дазваляюць кожнаму сумленнаму грамадзяніну не сумнявацца ў правільным выбары.

А Мікола Статкевіч? Хіба кожны апазіцыянер вытрымаў бы тыя фізічныя і маральныя пакуты, якія яму давялося перанесці за кратамі? Незлічоную колькасць разоў трапляў пад удары амапаўцаў толькі таму, што заўсёды быў наперадзе ў шэрагу дэманстрантаў за свабоду і незалежнасць Беларусі.

Так, канчатковы выбар зробіць кожны з беларусаў на саміх выбарах. Аднак да іх правядзення павінны сабрацца ўсе апазіцыйныя вылучэнцы, адкінуць уласныя амбіцыі і выбраць адзінага кандыдата. Якім ён павінен быць? Як ні банальна гучыць – чэсным і прыстойным чалавекам. Сёння такія ў самым вялікім дэфіцыце. Больш за ўсё трэба баяцца тых, для каго ўлада мара, а не крыж. Ужо калі выбары адбудуцца, можна будзе думаць пра тое, ці патрэбны Беларусі ўвогуле прэзідэнт. Такая пасада, на маю думку, не патрэбна. Вельмі вялікая рызыка для краіны звязана з адной асобай. Парламенцкая рэспубліка – вось што з'яўляецца патрабаваннем часу.

**Вячаслаў САСНОЎСКІ, кандыдат геаграфічных навук.**

*г.п. Смілавічы.*

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Ці будзе разносіцца па наваколлі звон з вежаў Чырвонага касцёла, што на плошчы Незалежнасці?

17 лютага 2019 года пасля Святой Імшы адбылося асвячэнне Мітрапалітам Мінскім і Магілёўскім Тадэвушам Кандрусевічам званоў, якія ўжо ўсталяваны на вежы касцёла Св. Сымона і Св. Алены на плошчы Незалежнасці.




У сваёй гаміліі мітрапаліт зрабіў акцэнт на тое, што неабходна вяртацца да хрысціянскіх каранёў, ставіць духоўныя каштоўнасці на першае месца, атрымліваць ласку Божую ў сакрамэнтах касцёла, клапаціцца пра ўзвядзенне новых і аздабленне існуючых святыняў.

Падчас літургіі пробашч Чырвонага касцёла ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк падзякаваў Госпаду Богу за дар званоў і выказаў спадзяванне, што яны будуць не толькі служыць як музычны інструмент, але і абуджаць сумленне народа, заклікаць людзей да Бога і да святыняў і напамінаць пра Божыя Запаветы.

Найвялікшы звон «Святы Арханёл Міхаіл» важыць 1250 кілаграмаў. Ён узняты на вежу касцёла як знак падзякі духоўным і свецкім асобам, якія захавалі веру ў часы ганенняў на Касцёл. Другі звон вагой 700 кілаграмаў названы ў гонар слугі Божага Эдварда Вайніловіча, які імкнуўся, каб людзі розных веравызнанняў праслаўлялі Пана Бога ў святынях. Трэці звон важыць 500 кілаграмаў, ён нагадвае пра жонку і дзяцей Эдварда, сімвалізуе словы Хрыста «Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне!».

Пасля заканчэння Святой Імшы мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падняўся на вежу Чырвонага касцёла, здзейсніў акрапленне, акаджэнне званоў і сімвалічна ўдарыў у кожны з іх, каб быў пачуты асобны голас кожнага звона. Звонкія і чыстыя гукі разнесліся над плошчай.

Літургічны хор «Голас душы» спяваў перад касцёлам, абвяшчаючы пра радасную падзею.

Урачыстасць адбылася ў прысутнасці сотняў парафіян і гасцей, якія прыбылі з розных канцоў горада і ўсёй Беларусі.

Але ўжо ў наступную нядзелю званы маўчалі… Кажуць, што трэба дачакацца заканчэння рамонтна-рэстаўрацыйных работ у касцёле, і тады гукі званоў будуць разносіцца па наваколлі. Будаўнікі запэўніваюць, што ў маі яны злезуць з рыштаванняў.

**Галіна БЕЛЬСКАЯ.**

